# Мастоўскі веснік

Не народ для ўлады,
а ўлада для народа.

Незалежнае выданне | №10(54) | 20 траўня 2000 г.

## АНОНС



# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

## Супакоілі ды зменшылі

Пасля лютаўскага штрайку на ААТ "Мастоўдрэў", якія кіраўніцтва прадпрыемства з дапамога "абаронцаў рабочых"—афіцыйнага прафсаюза—прызнала незаконным, рабочым павысілі заробак, іншым у паўтара раза. У пераліку на цвёрдую валюту гэтая лічба сягала да 50 даляраў ЗША. Нават гэтай мізэрнай зарплаце не доўга давялося радавацца людзям. Атрымаўшы разліковыя квіткі за красавік, рабочыя некаторых цэхаў пабачылі, што сума выплатаў стала зноў амаль такой,якой была за студзень бягучага года. **Баставаць зноў рабочыя не адважыліся.**

**Янка КАЛУЖНЫ**

## Выстава ў Гудзевічах

У мясцовым літаратурна-краязнаўчым музеі адкрыта філатэлістычная выстава. Яна прысвечана слынным постацям зямлі беларускай. Матэрыялы для яе экспазіцыі прадставіў настаўнік Пілкаўскай сярэдняй школы Лявон Карповіч. Ім сабрана шматлікая калькацсь марак, канвертаў, што выпушчаны у гонар дзеячоў і падзей, пачынаючы яшчэ з часоў Вялікага княства Літоўскага.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## *Даходы малыя, расходы вялікія*

За першы квартал 2000 года даходная частка бюджэту Мастоўскага раёна выканана толькі на 15,2%, а расходная на—19,2%. За гэты перыяд паступіла ў бюджэт 295млн.руб.,а прафінансавана расходаў на суму 610млн.руб.Гэтыя грошы ў першую чаргу накіроўваліся на выплату заробку служачым, разлікі за харчаванне, медыкаменты, а таксама на аплату спажытых бюджэтнай сферай энергарэсурсаў.

**Ул.інф.**

## Труцілі глісты — здохлі свінні

Пра гэты выпадак афіцыйныя крыніцы звестак не даюць.Людзі, як звычайна, перабольшваюць.Кажуць, што ў калгасе імя Карбышава здохла 400 ці 700 свінней.Прычына таму-перадазіроўка парашкоў, які давалі жывёле ад глістоў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## На ААТ абразаюць

На прадпрыемствах і ў арганізацыях Мастоў існуе практыка выдзялення рабочым і служачым зямлі пад пасадку бульбы. Звычайна гэта 10 і болей сотак. Сёлета, як і летась, на ААТ "Мастоўдрэў" рабочыя атрымалі участкі толькі ў пяць сотак, але заплацілі гэтак як іншыя за 10 сотак—10 тысяч рублёў.

**Антон МАКЕЙ**

## Збываюць галодныя каровы

Мастоўскі райвыканкам вымушаны канстатаваць, што ад пачатку гэтага года ўсе калгасы і саўгасы раёна, за выключэннем "Світання", "Чырвонай зоркі", "Дубна" і "Чырвонага партызана", знізілі сярэднесутачную прывагу буйной рагатай жывёлы. А ў той час не прамінуў пахваліцца, што план продажу мяса дзяржаве па раёну выкананы аж на 140%. **Ул.інф.**

## У адпачынак без грошай

У шэрагу цэхаў ААТ "Мастоўдрэў" спынена вытворчасць, рабочыя адпраўлены ў адпачынак. Тут пачаўся рамонт. Калі людзі будуць адпачываць, рамонтны цэх, згодна з загадам, працуе без выхадных. Дый адпачынак рабочых непаўнаварты, ім няведама калі выплацяць адпускныя. Так што наведаць нейкія там "сінгапуры", як іх кіраўнік Буры, не змогуць,бо няма за што купіць хлеба. А прафсаюз прадпрыемства паводзіць сябе як звычайна — робіць выгляд, што нічога не здарылася.

## Калонка рэдактара

**Вялікая, несусветная радасць ахапіла жыхароў дамоў №№12,14 па пр-кце Юнацтва і №2 па пр-кце Міра.** Ужо можа ў дзесяты раз мясцовыя ўлады ўзяліся добраўпарадкаваць двор гэтых дамоў. Дваровая эпапея тут цягнецца ўжо каторы год. Райвыканкам закладвае ў бюджэт грошы на прывядзенне гэтае тэрыторыі да больш менш прыстойнага стану, з пачаткам зімы прывозіць некалькі самазвалаў пяску ці распачынае нейкія іншыя работы, якія ў большай ступені нагадваюць пабудову пацёмкінскіх вёсак, але прырода рэзка спыняе ўсялякія іх памкненні. Узнікае лагічная думка—на гэта разлічвалі ўлады. Потым неведама куды знікаюць выдзеленыя грошы. Іх проста перакідаюць на фінансаванне іншага аб"екта. На наступны год пачынаецца ўсё з пачатку: Абяцанкі, здабыванне фінансаў ды, каб супакоіць людзей і замыліць ім вочы, ганяюць па двары бульдозер, калі паляцяць "белыя мухі". Людзі, па праўдзе кажучы, да гэтага ўжо прызвычаіліся. Цярплівыя яны ў нас. Напачатку пісалі заявы ў райвыканкам, збіралі пад гэтаю паперкаю подпісы, змяшчалі фатаздымкі двара ў газеце "Зара над Нёманам",якія нагадваюць руіны Акропаля. Толькі гэта ўсё ў цяперашняй мясцовай ўлады не выклікала ніякай спагады. Яна толькі злавалася, бо нейкія там мяшалі асобным яе прадстаўнікам паляпшаць свой дабрабыт. Адным словам, пішуць тут розныя ды не даюць будаваць "рынкавы сацыялізм". Папісалі-папісалі грамадзяне ды супакоіліся. А што ім застаецца рабіць?! Сценку галавою не праб"еш.У нашага народа натура такая —начальству "відней", а супрацьстаяць яму ўласнага гонару не хапае. Жывуць у гэтых дамах людзі, якія займаюць пасады значныя і даўно маглі б паўплываць на вырашэнне пытання прывядзення іх двара да прыстойнага ладу. Не! Б"юць на калдобінах машыны, пераскокваюць цераз бардзюры, лужыны, месяць гразь ці паднімаюць нагамі пыл.Адным слова,і тым задаволены, што ёсць.

Сёлета ўлады, мусіць, вырашылі здзейсніць сваю векавую задуму: закончыць дабраўпарадкаванне двара. Болей чым месяц назад намеснік старшыні райвыканкама Алена Кір"янава ўгаварыла кіраўніка адной будаўнічай арганізацыі распачаць тут працу і паабяцава потым прафінансаваць справу. Абяцанкі працаваць задарма пацягнулі на некалькі самазвалаў пяску. На тым праца і спынілася. Зараз яна распачалася зноў. Разраўнялі раней прывезены пясок, завязлі чарназём. Магчыма хутка тут будзе асфальт, але вось ці будзе тут зроблена лінёўка і іншыя работы, каб гэты двор быў падобна на двор, а не на тундру ці марсіанскі ланшафт, пабачым.

## Мастоўскія ізгоі

Гэтых людзей можна пабачыць раніцай,яны заўжды спяшаюцца ў адным кірунку.Апранутыя ў звычайную рабочую вопратку, даволі-такі паношаную. У іх у адной руцэ невялікая торбачка ці поліэтыленавы пакет, у другой вілы,кошык,вядро ці штосьці іншае ў залежнасці ад сезона. Яны спяшаюць з розных куткоў горада і чым бліжэй да будынка па вуліцы Лермантава, дзе знаходзіцца бюро па працаўладкаванню, тым часцей іх можна сустрэць. Тут і маладыя, і пенсіянеры. Напачатку восьмай гадзіны дня яны па адным збіраюцца ля яго ўвахода. І ўжо а палове восьмай—стаіць ладны натоўп. У залежнасці ад пары года ён бывае большы ці меншы. Звычайна мала людзей зімою, але як толькі крыху пацяплее, тут можна налічыць не менш як сотню людзей. У восень, калі час капаць бульбу, значна болей.Гэтыя людзі амаль усе беспрацоўныя накіроўваюцца на грамадскія працы (камунальную гаспадарку, але ў большасці сваёй у калгас) каб зарабіць хоць нейкія грошы. Зараз у Мастах налічваецца болей як чатырыста беспрацоўных. Але ў гэтым натоўпе сустракаюцца пенсіянеры і тыя, хто працуе, але атрымлівае недастаткова. Каб арганізаваць такія работы, райвыканкам штогод прымае спецыяльнае рашэнне. І сапраўды, арганізаваць такія работы не проста. Фінансавы стан калгасаў і саўгасаў раёна такі, што, нягледзячы на недахоп рабочых рук, яны не могуць своечасова выплаціць заробак сваім рабочы, а тым хто прыязджае на працу з горада ў большасці сваёй павінны плаціць у той жа дзень. Вось і вымушаны работнікі боро па працаўладкаванню ўпрошваць старшынь калгасаў, каб хоць неяк выканаць рашэнне райвыканкама. У залежнасці ад працы бываюць розныя віды аплаты: як грашыма, так і натурай. Асабліва ў пашане бульба, некаторыя спецыяльна ездзяць на яблыкі ці на гародніну. Калі іншы сезон, то выкідаюць з фермаў гной, полюць буракі, ірвуць іх. Выконваюць іншую працу. Аплата невялікая, добра, калі за дзень выходзіць тысяча. Але гэта бывае рэдка і не ўсюды. З гэтымі грашыма кожны паступае, як яму захочацца. Адны спяшаюць у краму, каб купіць малака ды хлеба, іншыя пляшку віна і потым ужо апіраючыся на вілы, крочаць дамоў.

**Янка КАЛУЖНЫ**

## Ні парка ні стадыёна

Некалькі гадоў таму назад у новым мікрараёне паміж праспектам Юнацтва і вуліцай Я. Коласа быў разбіты парк. Праўда, высадзілі там дрэвы, высокія ды тонкія, якія гнуліся нават ад маленькага подыху ветру, але яны неяк прыняліся.

Гэтаю вясною пасярэдзіне маладога парка бульдозерам была выраўнена пляцоўка, выкарчаваны дрэвы і неўзабаве з"явілася невялікае футбольнае поле ды побач вялізная куча пяску. А зараз нельга зразумець, што тут знаходзіцца:міні стадыён ці парк, але ні тое ні другое не даведзена да ладу.

**А.С.**

ЯЗЭП

# З ІНШАГА СТАГОДДЗЯ

**апавяданне**

—Даруйце, калі ласка! Мы з вамі дзесьці бачыліся.

Мужчына з сівою галавою і сівою, але акуратна пастрыжанаю, барадою прыпыніў крок і падняў на мяне шэрыя вочы.

“Божа! Дзе я мог бачыць гэты позірк.”

—Магчыма, толькі ў іншым стагоддзі.

Падыйшла Вольга, мая сястра, і стрымана павіталася з сівагаловым.Ён адказаў ветліва ды прыязна. Бачна, знаёмыя.

—Не разумею,— выказаў я здзіўленне.

—Бачыліся,—у гэты раз чалавек сказаў больш упэўнена—Толькі не ў гэтым стагоддзі.Іншы раз мне здаецца нават не на гэтай планеце.

Я увогуле разгубіўся ад такога адказа.

Мужчына развярнуўся і пайшоў. Як хвіліну назад, мне вельмі знаёмай падалася гэтая постаць.

—Не звяртай увагі,— кранула за плячо Вольга.— Намагаецца выдаваць сябе за інтэлегента. Такія людзі ў маленькіх мястэчках, як наша, падобныя на белых воранаў.

Колькі гадоў насіла мяне па беламу свету. Колькі гадоў прыйшлося жыць удалечыні ад роднага парога. Там сустрэў жанчыну, пакахаў ды застаўся жыць.І вось толькі зараз узнікла жаданне пабачыць родны кут. Даўно памерлі бацькі і адзіным родным чалавекам тут засталася сястра Вольга.

Невялічкі гарадок. Тут прайшло маё дзяцінства.За пятнаццаць гадоў адсутнасці ён знешне змяніўся. Магчыма не ў лепшы бок. Драўляныя дамы саступілі месца пяціпавярховым скрынкам.Так, час наклаў сваю пячатку.Іншы раз лаўлю сябе на думцы—не мой горад.

—Сярожа, што ён ад цябе хацеў?—запытала Вольга.

— Я ад яго.

— ???

—Вельмі знаёмай падалася яго постаць,—адказаў і ў сваю чаргу запытаў.—Бачу, вы таксама знаёмыя.

—І вельмі добра.

Мы закончылі наведванне мясцовых крамаў,зрабілі неабходныя закупы і вярнуліся дамоў.

Сцяпан, муж Вольгі, быў ужо дома і на добрым падпітку.Пэўна,апахмяліўся. Учора,з нагоды майго прыезда, засядзеліся і ён пайшоў на працу з хворая галавою.

Мужчына смешна развёў рукамі і з цяжкасцю вымавіў.

—Прый-шлі.Піць бу-дзем.

Сястра ўзяла яго за плечы, пацалавала ў няголеную шчаку і ласкава прамовіла:

—Сцяпанка! Ідзі крыху паспі.

—Ха-чу яш-чэ вы-ы-піць,—запярэчыў ён.

Вольга не стала спрачацца, наліла келіх гарэлкі. Сцяпан не марудзячы выпіў і тады яна адвяла мужа ў спальню. На мой запытальны позірк адказала так:

—Зараз п”юць усе. І мы з табою вып”ем, пачакай крыху, згатую вячэру.

—Піць можна па рознаму.

—У мястэчку п”юць усе. Не ўжываюць адзінкі, у большасці сваёй хворыя.Сцяпан п”е, але не б”ецца і ўвесь заробак не прапівае.Хоць іншы раз бывае.

Мелася адбыцца споведзь жыццёвай рэчаіснасці. Толькі я не меў намеру трымаць на гэтую тэму дыспут.

—Вольга,як зваць таго чалавека?—звярнуўся я да сястры.

—Міша,—у яе голасе адчувалася абыякавасць.

Дзеці ўзялі вячэру ды пайшлі глядзець чарговую серыю нейкага тэлефільма.

—Чым ён цябе зацікавіў?

—У мяне такое прадчуванне, што дзесьці мы бачыліся.Ён мясцовы? Чый?

—Не.Не тутэйшы...Давай павячэраем, брацік. Па крысе вып”ем — Вольга села за стол.—Я ўсё распавядаю.

Яна наліла поўныя чаркі. Стукнуліся.Выпілі.

— Ён не тутэйшы.Як брату, усё табе распавядаю. Міхал з”явіўся тут нечакана, болей як дзесяць гадоў таму.У камунальную кантору, дзе я працавала сакратаркаю, уладкаваўся простым слесарам.Тады яму было крыху болей як дваццаць пяць.Адразу ўся ўвага на мяне.Маладая, прыгожая.Шмат хто тады да мяне заляцаўся.Ён болей за іншых. Былі спатканні, пацалункі.Колькі разоў прыходзіў да нас дамоў. Маме з татам ён падабаўся. Мне... таксама. Заўжды прымаўся інтэлегентна...Гэтым занадта выдзяляўся ў нашым асяроддзі. Ужо збіралася выйсці за яго замуж.А тут здарылася адна акалічнасць. Не прайшоў звычайны медагляд.Рука параненая. Немагчыма працаваць столерам. Прапанавалі іншую працу. Зволіўся.Уладкаваўся ў тутэйшы краязнаўчы музей... Давай, вып”ем.

Усё тое яна распавядала быццам чужую гісторыю, як паміж імі не было ніякіх пачуццяў.

— А далей?

—А што далей? Выйсці замуж за сівога да аднаго валаса хлопца ды яшчэ інваліда. Дурніца я ці што! Усе дзяўчаты мне тое казалі. А тут Сцяпан. Дальнабойшчык. Заробкі ў той час не дрэнныя. Здаровы мужык у хаце, а не тое, што скалечаны афганец. Пад час аднаго бою быў некалькі разоў ранены ды шэсць сутак поўз да сваіх.

Мне сталася горача і млосна.

—Афганец! Як яго прозвіча?

—Кандратовіч.

“Лейтэнант Кандратовіч! Не пазнаў!”— ад сораму, я схапіўся за галаву.

—Усё ж ён нейкі не сур”ёзны. У апошні час звязаўся з нацыяналістамі. У мястэчку такіх адзінкі і іх ніхто не паважае.Аднойчы да мяне нават прыходзілі людзі... адтуль...з органаў ды распытвалі.Пастой-пастой, вы мабыць знаёмыя. Аднойчы ён мне паказваў фатаздымак,дзе мы з табою. Толькі не патлумачыў, дзе ўзяў.

—Дзе ён жыве?—спахапіўся я.

—Тут, недалёка.У інтарнаце. Яму, каб мы ажаніліся, як афганцу, адразу меліся даць кватэру. Калі я выйшла за Сцяпана, адмовіўся ад кватэры. Не захацеў адзін жыць.Быў час, калі мы са Сцяпанам паскандалілі ды я збегла да бацькоў. У той жа дзень Кандратовіч прыйшоў ды прапанаваў пайсці жыць да яго...Смешна нейк. Не жаніўся.Трымае нейкую надзею... На штосьці спадзяваецца...

— Дык дзе ён жыве?

— Хочаш пабачыцца?

—Хачу. Як знайсці мне яго зараз?

—Пайшлі. Пакажу.

У інтарнаце на вахце Вольга запытала:

—Кандратовіч яшчэ ў музей ці ўжо дома?

— Ён тут болей не жыве.

— Як?

Працяг будзе

*Футбол*

## Чарговая перамога

У чацвёртым туры першынства Беларусі сярод камандаў першай лігі мастоўскі "Нёман" прымаў светлагорскі "Хімік". Перад сустрэчаю каманды займалі розныя месцы ў турнірнай табліцы: мастаўчане з сямю ачкамі былі на трэцім, светлагорцы з трыма—на адзінаццатым.

Першую палову гульні нашыя хлопцы, акрамя сапернікаў, змагаліся яшчэ з ветрам. І гэта ім удавалася. Гульня была хуткаснай і жосткай. Дзесьці на 17 хвіліне мастаўчанам удалася шматхадовая камбінацыя і яе завяршыў капітан каманды Аляксандр Вярбіцкі. Лік стаў 1:0 на карысць "Нёмана". Неўзабаве капітан "Хіміка" груба згуляў супраць нашага сёмага нумара Пятрова, за што і атрымаў жоўтую картку. У гэты момант госці атакавалі больш, але поспеху дабіцца не змаглі. Гаспадары поля адказвалі вострымі атакамі і на 28-й, 33-й і 40-й хвіліне маглі падвоіць лік.

На пачатку другога тайма зноў груба гуляюць госці, але на гэты раз ужо супраць Аляксея Сучкова, і трэнеры вымушаны праводзіць замену. У гульню пад 15-м нумарам уступае Уладзімір Кухлей. Пад час чарговай атакі на 26-й хвіліне другога тайма дакладна б"е Уладзімір Грынюк, і лік у матчы падвойваецца. Здаецца гульня зроблена, але госці не губляюць надзею і працягваюць атакаваць.За тры хвіліны да заканчэння матча нападаючы "Хіміка" Ганчарэнка выходзіць адзін на адзін з нашым варатаром і забівае гол. Узрадаваныя поспехам, госці кідаюцца ў атаку і на апошняй хвіліне дамагаюцца вуглавога. Жаданне забіць яшчэ адзін гол у гасцей было на столькі вялікім, што нават іх варатар прыйшоў у нашую штрафную пляцоўку, але ўсяроўна матч закончыўся перамогаю мастаўчан. Зараз у іх актыве 10 ачкоў. Прыз сімпатый гледачоў быў прысуджаны абаронцу "Нёмана" Аляксандру Дзенісевічу. Варта яшчэ адзначыць абаронцу Дзмітрыя Козіча, які не толькі надзейна згуляў у абароне, але і ўдала падключаўся да атакаў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Золата мастаўчанак

На першынстве свету па веславанні на байдарках і каноэ, што праходзіла ў Бельгіі, зборная Беларусі на дыстанцыі 500м заваявала залатыя медалі. Да складу каманды ўваходзілі і мастаўчанкі Алена Бець і Святлана Вакула. Рыхтаваў зборную каманду заслужаны трэнер Беларусі дырэктар Мастоўскай спартыўнай школы Пётр Рудзевіч.

*Цікава ведаць*

## Уцякаюць ад "рынкавага сацыялізма"

Па звестках агенствам "Сахнут"за 10гадоў у Ізраіль з краінаў СНГ перабралася 794174 рэпатрыянты.

Беларусь па колькасці перасяленцаў у гэтым спісе пасля Расіі, Украіны, Узбекістана. Ад нас з"ехала 64 166 чалавек.

## Дзе не бяруць хабар?

Аказваецца, Беларусь—далёка не самая карумпаваная краіна. У сусветным рэйтынгу, які надрукавала адна сусветная арганізацыя, мы займаем 58-е месца. У Расіі, Казахстане, Украіне стан спраў яшчэ горшы.

Усяго абследавана 99 дзяржаў. Самая некарумпаваная краіна—Данія. Тым часам Германія займае 14-е месца, ЗША — 18-е, Польшча — 44-е, Расія — 82-е. Замыкае гэты спіс самая карумпаваная краіна — Камерун.

## *Ёсць такая статыстыка*

Кожны год ў Расіі "мужыкі мочаць" 14 тыс. жанчын і яшчэ 600 тысяч калечаць.

Калі ім упадабаюцца беларускія жанчыны, то за 5 гадоў у Беларусі не будзе не пакалечанага нават немаўляці жаночага полу!

## *Мастаўчане жартуюць*

Інспектар ДАІ спыняе машыну і пытае ў шафёра:
— Як вы селі за кіраўніцу ў такім п"яным стане?
— Сябры дапамаглі.

У аддзяленне міліцыі заходзіць жанчына і кажа:
— Два дні таму назад мой муж пайшоў з хаты і не вярнуўся.
— Як ён быў апрануты.
—На ім былі штаны ў тлустых плямах, сарочка без двух гузікаў, сіняя швэда, якая была зашыта белымі ніткамі, а таксама ружовы фартух з чырвонымі кветкамі.

—Ніяк не магу знайсці заварку,—кажа муж.
—А ты заўжды нічога не можаш!—адказвае жонка.
—Заварка ў буфеце на верхней паліцы ў бляшанцы з-пад кавы, на якой я ў мінулым годзе напісала соль.

—Прашу цябе, памаўчы хвілінку,—кажа ў машыне муж жонцы.—Я хачу паслухаць ці завёўся рухавік нашай машыны.

Прыходзіць мужык ад каханкі. Жонка:"Дзе быў гад?"Муж:"У Васілія, у шахматы гулялі!" Жонка звоніць Васілію: "Вась, мой Пецька сёння быў у цябе"."Так, ён і цяпер у мяне сядзіць..."

Заснавальнік і рэдактар
Язэп Палубятка

Адрас для допісаў:
231600 г. Масты-2
Палубятку І. І.
да запатрабавання,
тэл. 2-16-90

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі

Наклад 299 асобнікаў.
Фармат А-4
Друк "Ратуша"